# Самапомач Гаспадарам

*Беларускі папулярна-гаспадарскі часапіс*

Год VII. Вільня, Студзень 1938 г. № 1 (75).

*Аб чым піша «Самапомач»:*





Рэдакцыя і адміністрацыя: Вільня (Wilno), Завальная вул. 1.

# У новы год!

Уходзім у новы календарны год працы. Зьмяняецца час, зьмяняюцца вымогі і заданьні. Бяз зьмены астаюцца абавязкі.

Нашы чытачы з папярэдніх гадоў лёгка заўважаць розьніцу ў выглядзе самага часапісу. Ёсьць зьмены і ў зьмесьце. У гэтым годзе „Самапомач" павялічана ў сваім абыйме: замест 8 бачын мае бачын 16, але затое з двутыднёвіка становіцца яна месячнікам. Што да зьместу, дык пакідаем дагэтуляшнія аддзелы земляробскай тэхнікі, зямельнай (аграрнай) палітыкі і гаспадарскай хронікі, выпускаем аддзел хронікі палітычнай і аддзелы з жыцьця беларускага і жыцьця нашых найбліжэйшых суседзяў. Ператасоўку гэту робім з дзьвюх прычын: каб мець больш месца для спраў чыста-гаспадарчых і каб не падаваць „навінаў", якія за месяц часу сапраўднымі навінамі ўжо быць перасталі. Урэшце, пачынаючы з гэтага нумару часапісу друкуем дадатак, які сам сабою, можа быць вельмі цэннаю кніжкаю, каторую акуратныя нашы падпішчыкі будуць мець зусім за дарма.

Усе гэтыя зьмены, спадзяёмся, чытачы нашы спаткаюць ахвотна, з выняткам зьмены аднае, — што часапіс наш з двутыднёвіка становіцца месячнікам. Шкадуем гэтага і мы, але сягоньня другога выхаду няма. Ня маючы іншых крыніц існаваньня, як толькі падпіска, на штосьці большае пазволіць сабе ня можам. Пры гэтай аказіі шчыра дзякуем усім нашым дагэтуляшнім падпішчыкам і супрацоўнікам за іхняе зразуменьне патрэбаў часапісу і на будучыню просім таго самага.

Не бяз горычы аднак тут-жа мусім успомніца і аб тых, хто у мін. годзе сваіх абавязкаў перад часапісам, паміма прыпамінаньняў, чамусьці ня толькі ня выканалі, але ў гэтым кірунку нават ня выказалі свае добрае волі. Чакалі мы на іх цярпліва, але ў самым хуткім часе змушаны будзем з імі разстацца, хоць гэтага і вельмі шхадуем.

Асобнай урэшце перашкодай нашае працы ёсьць справа недаручаньня часапісу падпішчыкам на вёсцы. Аб гэтай справе чытачы знойдуць у сяньняшнім нумары часапісу асобны аддзел, куды кожнага зацікаўленага і адсылаем. Тут-жа толькі сьцьвярджаем, што ні рэдакцыя, ні адміністрацыя часапісу ў гэтым не вінаватыя.

З гэтымі думкамі і намерамі ўваходзім у новы год працы. Не снуём ружовых надзеяў, але і не паддаёмся і зьняверы. Працуючы над падняцьцем гаспадарчага дабрабыту нашага беларускага сялянства, не адступаем ад засады, што трывалы дабрабыт ня можна падаваць ані наказамі, ані падмогамі. Адзіны, годны чалавека, спосаб здабываньня дабрабыту, гэта **самапомач:** не патрабуем помачы з-боку, але хай нам будзе можна жыць і арганізавацца так, як гэта ўважаем для сябе за добрае і адпаведнае.

Але сам толькі дабрабыт для дабрабыту мэтай быць не павінен: уважаем яго толькі як варунак, без каторага чалавек ня зможа разьвіцца ў поўнавартасную адзінку. Мэтай нашай ёсьць сьведамы сваіх абавязкаў і правоў **чалавек.**

# Жывёлагадоўля ці польная гаспадарка?

Калі ў 1928 г. пачынаўся гаспадарскі крызыс, з усіх бакоў чуваць было галасы: не аплачваецца польная гаспадарка, пераходзьце да жывёлагадоўлі. Мінула ня цэлых 10 гадоў і што-ж бачым? Карыстаючыся з аблічэньняў Галоўнага Статыстычнага Бюра — ў абыйме ўсяе Польшчы як гаспадарства, разгледзім, як укладаліся цэны на аснаўныя прадукты за апошнія два гады: 1937 і 1936 (у дужках). І так: за 100 клг. бульбы ў паказаным вышэй часе плацілі: у 1937 г. — 4 зл. (у 1936 г. — 3 зл. 13 гр.), жыта — 22.09 (13.48), ячменю на пансак — 20.41 (13.88), аўса — 20.45 (13.20), сена мурожнага — 7.50(4.45), саломы — 6.00 (2.62). Гэта знача, што ў параўнаньні з 1936 годам, у 1937 г. падняліся цэны: на бульбу — на 27.8 прац., на жыта — на 71.3 прац., на ячмень — на 47 прац., на авёс — на 54.9 прац., на сена — 68.5 прац., на салому — на 129 прац. У сярэднім можна рахаваць, што прадукты польнай гаспадаркі ў паказаным вышэй часе падняліся на 50 працэнтаў (напалову).

Натуральна, гэта абніжыла даходнасьць жывёлагадоўлі, бо цэны на прадукты жывёлагадоўлі адпаведна не падняліся. На цэнтральным рынку Польшчы пад канец мін. году за 100 клг. жыв. вагі валоў 1 сорту плацілі ў сярэднім 88 зл., а ў 1936 г. — 75 зл. У працэнтах гэта падвышка раўняецца 17.3 прац., ці йнакш у тры разы менш, як цана пашы (якая паднялася на 50 прац.). За сьвіні 1-га сорту пад канец леташняга году там-жа плацілі за 100 клг. у сярэднім 118 зл., а ў 1936 г. — 100 зл.; тут цана паднялася роўна на 18 прац., ці таксама блізу ў тры разы менш, чым за пашу.

Або йшчэ адзін доказ: агулам рахуюць, што для атрыманьня 100 клг. жывой вагі кормнае сьвіні трэба даць пашы на вартасьць 400 клг. жыта. У 1936 г. гэтыя 400 клг. жыта каштавалі 53 зл. 92 гр., а ў 1937 г. — 88 зл. 36 гр. Параўняўшы гэту вартасьць жыта з вартасьцю 100 клг. прыросту жыв. вагі, атрымаем, што ў 1936 г. гаспадар-земляроб на пашу мусіў выдаць 53.9 прац., а ў 1937 г. ўжо 74.8 прац. тэй цэны,

# ARGIENTYNA.

Argientyna heta dalokaja zamorskaja kraina ŭ Paŭdzionnaj Amerycy. Pamiž šmat asobnymi haspadarstvami ŭ hetaj časci Ameryki Argientyna jość haspadarstvam najbolšym. U sučasnych hranicach isnuje jana tolki ad 1888 h. Prad tym razam z susiednimi Bolivijaj, Urugvajem i Paragvajem, zaležała Argientyna ad Hišpanii. Jak pamiatka hetaj zaležnaści astaŭsia ŭ Argientynie da siahońnia, a chiba i na zaŭsiady hišpanski jazyk.

Abšar Argientyny siahońnia raŭniajecca 2.900.000 kv. klm., h. znača šeść raz hetulki, kolki zajmaje Niamieččyna*) Na hetym abšary žyvie ŭsiaho 12.164.000 ludziej, siarod jakich tolki 30.000 miascovych Indyjanaŭ. Z ahulnaha abšaru tolki 8,3 prac. ci kala 240.000 kv. klm. zajmajuć vornyja pali, bolš 1 miljona kv. klm. (34,5 prac.) znachodzicca pad lesam, pieravažna pieršabytnymi puščami, 1.360.000 (46.9 prac.) kv. klm. — pad ściapovymi paśbiščami (preryi) i 300.000 kv. klm. (10 prac.) pad niaŭžytkami.

Z abšaraŭ zaniatych vornymi palami ŭ 1934 h. pad pšanicaj było 64.506 kv. klm. pad kukuruzaj 37.739 kv. klm., pad lonam na siamieńnie 16.640 kv. klm. Kultury inšych raślinaŭ, jak cukrovaha tryśniku, vinahradu i bavoŭny zajmajuć tolki niaznačnyja abšary i praznačany da spažyćcia na miescy, tady jak raśliny pierš nazvanyja praznačany nasampierš na vyvaz.

Ab značeńni ziemlarobskaj pradukcyi ŭ Argientynie śviedčyć jejnaje ŭčaście ŭ pradukcyi suśvietnaj. U 1934 h. ŭ Argientynie było vyrablena 6.5 mil. tonnaŭ pšanicy, 5.9 mil.tonnaŭ kukuryzy, 3.9 mil. tonnaŭ lannoha siamieńnia. U hetym-ža časie (1934 h.) u Argientynie było 32.2 mil. štuk skaciny, 9.9 mil. štuk koniaŭ i 44.4 mil. štuk aviec.

*) I blizu 9 raz hetulki kolki zajmaje etnahrafičnaja Bielaruś. — red.

якую ён мог атрымаць за выкармленую сьвіню.

Усяго гэтага хіба даволі, каб сьцьвердзіць, што варункі аплатнасьці жывёлагадоўлі на мяса пагоршыліся. Але на гэтым яшчэ не канец.

Тое-ж самае Статыстычнае Бюро абрахавала, што ў 1936 г. селянін сам беспасярэдна за 100 клг. ж.в. атрымоўваў ня 100 зл. а толькі 76 зл., ці на 24 прац. менш. Адыймаючы гэты самы працэнт ад цаны ў 1937 г., атрымаем ня 118 зл., а толькі 89 зл. 68 гр. Калі прыняць цяпер пад увагу вышэй аблічаны кошт уласны выпрадукаваньня 100 клг. ж. в. (у 1936 г. — 53 зл. 92 гр., а ў 1937 г. — 88 зл. 36 гр.), дык пабачым, што земляроб прадаючы гэтыя 100 клг. ж.в. меў для сябе ў 1936 г. 22 зл. 10 гр., а ў 1937 г. толькі 1 зл. 32 гр. Гэта знача сягоньня на рынку такія цэны, што земляроб, прадаючы выкармленую сьвіню, ледзь-ледзь толькі варочае вартасьць самае пашы, а праца і дбайлівасьць ідзе за дарма.

Усё гэта разам узятае не аднаму можа падкажа думку: калі жывёлагадоўля не аплачваецца, дык пакінуць яе і ўсе сілы сьціраваць на гаспадарку польную. Гэткая думка аднак была-б гатовым няшчасьцем. Земляробства мае тую свомасьць, што ў ім ня можна нічога выкідаць ці неабдумана заводзіць штосьці новае. Працівіцца гэтаму сама натура земляробства: раз што ніхто ня можа заручыць, што бліжэйшае ўжо заўтра не пераверне адносінаў на рынку ў кірунку адваротным. А далей, сама прадукцыя польная без жывёлагадоўлі ёсьць проста немагчымай, — хоць-бы з увагі на неабходнасьць хлеўнага гною, без катарага найлепшае поле раней ці пазьней, а напэўна спустошыцца.

Гэта маючы на ўвеце, трэба зрабіць выснавак наступны: трэба зорка сачыць за ўзаемаадносінамі рынычных цэнаў на прадукты расьлінныя і жывёлагадоўлі, але ніколі ня можна ўсю гаспадарку настаўляць аднабока. Тут мусіць быць заўсяды правіла: што на адным страціш, тое на другім знойдзеш.

*Гаспадар.*

## *ЧЫТАЧЫ І ПАДПІШЧЫКІ!*

*Памажэце нам зьбіраць новых чытачоў! Гадавая падпіска за 1 экзэмпляр з перасылкай — 3 зл., за 5 экзэмпляраў — 10 зл., а 10 экз. — 15 зл. Грошы прысылайце так, як паказана на апошняй бачыне часапісу ўнізе.*

Sposab haspadarki ŭ Argientynie dadavoli pierśabytny. Datyča heta naŭpierad haspadarki ŭ lasoch. U ziemlarobstvie pieravažajuć mahnackija abšarniki (latyfundysty), jakija staranna pilnujuć svaich upłyvaŭ i dvaroŭ (latyfundyjaŭ) prad napłyvam ludziej pryjezdnych. Hetym tłumačacca i siahońniašnija ahraničeńni pry ŭpuskańni ŭ Argientynu amihrantaŭ. Niezvažajučy na heta adnak, kali jšče ŭ 1895 h. ŭsiaho biełaskuraha nasielnictva ŭ Argientynie było 4 mil., dyk siahońnia lička heta, hałoŭnym čynam dziakujučy imigracyi (pryjezdu), uzrasła bolš jak u try razy. I hetym pryjezdnym ludziom, ichniaj enerhii Argientyna zabaviazana za svoj dabrabyt.

Jak nia roŭna raźmieśčana nasielnictva ŭ Argientynie, chaj śviedčać hetyja voś ličby: u 1937 h. u samym centry stalicy Argientyny, u Buenos-Aires, było 2.3 miljona, a na pradmieściach 600.000 čałaviek nasielnictva, u inšych haradoch kraju 5.9 mil. Na reštu kraju (na viosku)—ŭłaścivaje žarało dabrabytu Argientyny—prypadała tolki 3.8 mil. nasielnictva. Jašče radziej žyvuć Indyjanie — ŭłaścivyja haspadary kraju — 1 čałaviek na 2 kv. klm. abšaru.

Hrošy Argientyny nazyvajucca peso. Adzin peso maje ŭ sabie 100 centavos i varty hetulki, kolki dolar Paŭn.-Amer. Štataŭ (5 zł. 25 hr.). Akramia taho jošć jašče ŭ abarocie załataja maneta, jakaja nazyvajecca „Argentino", vartaść jakoj raŭniajecca vartaści 5-cioch pesos ci 1 anhlickaha funta (£). Vartaść argientynskich hrošaŭ u 1933 hodzie była samavolna abnižana, kab mahčy pradavać zahranicaj krajovaje zboža i vyraby miasnyja, jakija da taho času ŭsiudy vielmi značna patanieli.

Tak vialikaje značeńnie ziemlarobskaje pradukcyi Argientyny mahčyma nia tolki dziakujučy pryrodnym bahaćciam krainy, ale i ahramadnamu ŭkładu ŭ heta ziemlarobstva zahraničnych kapitałaŭ (da

# Яшчур.

Яшчур ці йнакш ведамы йшчэ сяго́ньня як прышчыца (афты) гэта небясьпечная заразная хвароба, на якую западае ня толькі скаціна, але так-жа авечкі, козы, сьвіні і нават чалавек. Коням гэта хвароба не пагражае. Выбухі гэтай хваробы ў пэўных гадох бываюць наглыя і вельмі сільныя. пасьля на колькі год прападаюць і зьяўляюцца ўзноў. З Нямеччыны надходзяць весткі, што хвароба гэта перасоўваецца ступянёва з захаду на ўсход (у кірунку Польшчы). Ёсьць, знача, небясьпека, што хвароба гэта можа дастацца і да нас, тымбольш што як падалі апошнія паведамленьні, у надгранічнай паласе Польшчы з Нямеччынай (у Пазнаншчыне) выпадкі яшчура ўжо былі занотаваныя. З гэтае прычыны земляроб павінен пазнаць як гэта хвароба выглядае і як ад яе бараніцца. Найчасьцей западае на яшчур скаціна і яе перад усім трэба прад яшчурам сьцерагчы.

Тэмпэратура падыймаецца да 40°Ц і вышэй, скаціна перастае есьці, з губы яе цячэ цягучая сьліна. На сьлізістай павалоцы паднябеньня і языка творацца вадыры (пухіры), якія лопаюць, пакідаючы па сабе балючыя ранкі. Сьліна ападаючы з зубоў на ногі, пераносіць заразкі на чуткую скуру паміж капытоў, дзе таксама творацца вадыры і раны. Скаціна ад гэтага ня можа хадзіць, храмае. Дойнасьць хутка ападае (зьмяншаецца), цельныя каровы ськідаюць. Калі ранкі забрудзяцца, дык можа настаць агульнае затруцьцё крыві і — сьмерць. Цяляты кормленыя сырым малаком ад хворых кароў хутка здыхаюць ад затруцьця страватраўчага апарату. Гэткім малаком можа заразіцца і чалавек. Таму калі ў гаспадарскім хляве заразіцца на яшчур хоць адна штука, дык ні ў якім выпадку ня можна ад кароў з гэткага хлява піць малака сырога, а толькі перагатаванае.

Скаціна заражаецца нявыкрытым дагэтуль заразкам, які на сьлізістую павалоку дастаецца з пашы, вады, а нават з пылу. Знача, калі хворая скаціна пяройдзе публічную дарогу і сьніне крыху свае затручанае сьліны, а пасьля гэтай самай дарогай пяройдзе скаціна здаровая, дык блізу напэўна заразіцца. Гэту-ж заразу прыносяць на нагах у хлеў вандроўныя купцы скаціны і наагул людзі чужыя. Поўна ўрэшце заразы яшчура і на кірмашох, калі там ніхто ня думае аб спосабах абароны прад хваробай.

---

600 mil. anhl. funtaŭ i 800 milj. dolaraŭ). Adnak apošnim časam, pačynajučy ad 1928 h., vyvaz ziemlarobskich praduktaŭ z Argientyny, a tym samym i sama pradukcyja pačała silna abnižacca. Ustrymała krychu hetu abnižku ŭspomnienaja ŭžo abnižka vartaści argientynskich hrošaŭ. Akramia taho sarhanizavana było adumyslovaje Biuro rehulacyi cenaŭ zboža (*„Junta Reguladora de Granos“*, jakoje zapeŭniała ziemlarobam napierad ustanoŭlenuju canu za pradukty zieml. haspadarki. Hetyja ceny ad kanca 1935 vynosiać za 100 klhr. pšanicy 10 pesos, kukuruzy 4.40 pesos,(=4 pesos 40 centavos), lannoha siamieńnia 11.50, lepšaha 14 pesos.

Vialikim tak-ža ŭdaram dla haspadarki Argientyny była ŭmova Anhlii z svaimi dominijami (kolonijami) ŭ Ottavie (Kanada), dzie jana zabaviazałasia ziemlarobskija pradukty kuplanyja dahetul u Argientynie, kuplać u hetych-ža svaich kolonijaŭ. Ad hetaha času pačynaje Argientyna viaści asobnyja dahavory („Rocca-pact“) spačatku z Anhlijaj, a paśla z Belhijaj, Holandyjaj, Švajcaryjaj, Niamieččynaj, Francyjaj i Italijaj i na padstavie hetych užo dahavoraŭ nia tolki pradavać zahranicu svaje pradukty, ale i z-zahranicy ŭpuskać da siabie pryjezdnych ludziej. A što heta ahraničeńnie ŭjezdu ludziej u Argientynu sapraŭdy značnaje, vidać choć-by z taho, što kali ŭ mižčasie ad 1923 da 1929 h. pryjaždžała ŭ hod ad 69 da 154 tys. čałaviek, dyk ad 1933 da 1936 razam pryjechała ŭsiaho tolki 35 tys. asob. Apošnim-ža časam hety pryjezd źmienšyŭsia jašče bolš, bo hałoŭnyja dastaŭščyki emihracyi ŭ Argientynu Italija i Hišpanija zaniatyja ciapier vojnami.

*„Życie Rolnicze“*. Dr. Avin.

Ясна з гэтага, што каб абараніць скаціну ад гэтай небясьпечнай заразы, трэба сьцерагчы сваю скаціну ад спатыканьня з скацінаю чужой, асабліва хворай, не пазваляць чужым асобам захадзіцца ў хлеў, дбаць аб чыстату. Калі-ж міма ўсяго гэтага хоць адна штука захварэе на яшчур, дык аб гэтым трэба зараз-жа паведаміць вэтэрынарныя ўлады (праз гміну ці паліцыю) і пасьля заняцца лячэньнем.

Спосаб лячэньня скаціны ад яшчура выглядае на пачатак дзіўна. Бо й якжа! — Чыстай (канешна *чыстай*) тканінай абціраюцца зубы хворай скаціны і пасьля гэтай-жа тканінай націраюцца дзясны і наагул рот тых штук скаціны, якія яшчэ здаровыя. Інакш кажучы сумысьля заражаецца ўся скаціна яшчэ дагэтуль здаровая. Небясьпекі тут няма, бо калі ў хляве захварэла адна штука скаціны, дык напэўна захварэюць і ўсе іншыя, адны хутчэй, іншыя пазьней, а хвароба ў хляве ад гэтага будзе толькі трываць даўжэй. Заражаючы-ж сумысьля ўсю скаціну дасягаем мімаволі таго, што хвароба трывае карацей. Акрамя таго было сьцьверджана, што скаціна заражаная яшчурам дабравольна хварэе значна лягчэй, чымся калі-б яна заразілася прыпадкова.

Само лячэньне выглядае гэтак: зубы і наагул рот хворай скаціны прамываць растворам піоктаніны (1 гр. піоктаніны на літр пераваранай вады), уліваючы гэты раствор у зубы пры помачы гумовай ігрушкі (шпрыц); капыты, у тым месцы дзе яны раздвойваюцца, прамыць найперш вадой крэолінавай, а пасьля тым-жа растворам піоктаніны, а раны на нагах засыпаць парашком, прыгатаваным з роўных частак таніны і крахмалу, і абвязаць тканінай. Калі хвароба перанеслася на вым'я, дык трэба яго намазваць мешанінай гліцэрыны (10 частак) і ёдыны (1 частка).

Хворую жывёлу трэба пакінуць у супакою, не вывадзіць яе паза гаспадарскі панадворак і агарод, найлепш трымаць у хляве, паіць з цабэрка, даць удоваль сухой падсьцілкі з мяккай саломы. Зусім не даваць сухой пашы (сечкі, атрубоў, макухаў), а толькі пашу зялёную, пойлу з атрубамі, з добра разваранай бульбы, клеік з ляннога сяменьня, крыху мяккага сена. Карміць не да сыта, лепш скупа, не даваць пашаў концэнтраваных, якія кепска ўплываюць на сэрца, ад чаго жывёла гіне.

Апрача таго проціў яшчура ўжываецца йшчэ шчапёнка, якую можа стасаваць лекар-вэтэрынар, да каторага так-жа трэба зьвяртацца ў выпадку якіх-небудзь комплікацыяў хваробы. **Паз.**

# Аб добрых гусях.

Тут хачу пагутарыць аб гадоўлі гусей. Лягчэй іх гадаваць, як курэй. Гусі здаваляюцца найскрамнейшым прымяшчэньнем, вымагаюць толькі чыстаты і неперабορлівыя ў пашы. Таму ў галіне гадоўлі гусей найпершым заданьнем ёсьць паправа расы. Усе хіба згодзяцца з тым, што нашы звычайныя гусі малыя, і таму цана і попыт на іх невялікія. Але блага робяць і тыя, хто ўзяліся за „паправу“ саматужна, заводзячы гарбаносных „лебядзяў,“ якія, праўда, ростам вялікія, зносяць шмат яец, але даюць горшае мяса і цьвёрдае пер'е; а акрамя таго гарбаты нос гэтых гусей не заахвочвае няпрывыкшую публіку.

Дзеля ўсяго гэтага спынюся тут над расаю, якую варта пашырыць за ейныя высакавартасныя прыметы. Гэткай расай ёсьць раса гусей паморскіх. Гэта вялікія гусі, важаць да 8 клгр., даюць шмат вельмі добрага мяса, пер'я й пуху. Неперабορлівы яны на пашу і таму зьяўляюцца першаклясным матар'ялам для вывазу заграніцу: яны хоць самі вялікія, невялікую маюць шыю і малую галаву, на што экспортэры зварочваюць асаблівую ўвагу, выбіраючы гэтых якраз гусей замест вялікіх „эмдэнскіх.“

Зразумела, што каб мець аднародны расавы матар'ял на вываз, найлепш мець расавых гусю й гусака. Але й крыжаваньне паморскіх гусей з нашымі звычайнымі, як паказвае практыка, дае вельмі добры матар'ял асабліва на пер'е (ад гусей белых). Найпрасьцей бы было выпісаць яйкі ад паморскіх гусей ды з іх чакаць прыплоду і направы. Але практыка паказала, што гусіныя яйкі цяжка даюцца перавозіць (цяжэй як курыныя) і таму, хоць гэта даражэй абыходзіцца, то ўсё-ж лепш выпісаць ня яйкі, а самую гусь. Гэткая племная гусь можа каштаваць каля 6 зл. за штуку і кошты перасылкі

*„Сілс. Госп.“* **Б. Гарадынскі.**

## Нястраўнасьць цялят.

Узімку народжанае цялё звычайна бывае найздаравейшае і найсільнейшае і такое перад усім трэба празначаць на плем. У гэту пару земляроб бадай найбольш мае часу, таму павінен больш пасьвячаць стараньняў цялятам і асабліва старацца, каб цяляты не марнаваліся ў зімавую пару. Нажаль, на гэта звачаючаюць людзі мала ўвагі, і дзеля гэтага вялікі працэнт зімавых цялят марнуецца. Арганізм малога цяляці ёсьць кволы, лёгка паддаецца розным хваробам, а сярод такіх хвароб даволі небясьпечнай ёсьць развальненьне ці нястраўнасьць.

Істота гэтай хваробы ў тым, што ў 2—4 дні па нараджэньні цялё становіцца сумным, перастае піць малако, дастае нястраўнасьці, кал ягоны становіцца белаватым і вадзяністым. Па дальшых колькі днях цялё худзее, спадае з ног, стала ляжыць і ўрэшце здыхае. Часта нават у вялікіх гаспадарках, калі нічога ня робіцца дзеля абароны, не астаецца жывым аніводнае цялё. Сяляне вінаваціць у гэтым благі корм. Але ўжо хоць-бы тое, што здыхаюць усе цяляты і што здараецца гэта ня што год, а толькі ў пэўных гадох, ёсьць найлепшым доказам, што вінавата тут ня паша, але што ў хляве загнезьдзілася заразная хвароба, іменна нястраўнасьць.

Заразіцца можа цялё йшчэ ў лоне маткі, калі бактэрыі знаходзяцца ў крыві каровы. Але цялё можа захварэць і пасьля нараджэньня. Дзеля таго што бактэрыі знаходзяцца ў гнаі, дык калі пупавіна нованароджанага цяляці даткнецца да гэткага гною, то напэўна заразіцца. Бактэрыі могуць знаходзіцца на кароўім вымі і таму цялё можа заразіцца і праз малако пры ссаньні ці кармленьні з рукі.

Калі гэткая хвароба ў хляве ўжо ёсьць, дык прад ацяленьнем каровы трэба зад ейны і вымя абмыць 3 прац. растворам крэоліны; пупавіну цяляці зараз па нараджэньні трэба абмыць крэолінавай вадой, памазаць ёдынай і завязаць; пасьля даць цяляці выпіць двойчы ў дзень па палове шклянкі крэолінавай вады. Ёсьць так-жа проціў заразнай нястраўнасьці добрая шчапёнка, якая задаецца здаровым яшчэ цялятам, толькі што народжаным.

Усьцерагчы цялё ад заразнай нястраўнасьці можна так-жа простым захаваньнем чыстаты ад самага ягонага нараджэньня, прыймаючы цялё зразу на чыстую вывараную тканіну і ні ў якім выпадку не дапускаючы, каб нованароджанае цялё з неагледжанай яшчэ пупавінай саткнулася з хляўным гноем. Каштуе гэта крыху хлопату, але ў аканчальным разрахунку аплачваецца. **К. З.**

## Прыкопка дзічкаў на зіму і пасадка іх вясной у пітомніку.

Два гады таму назад, у стацьці „Што і як рабіць з насеньнем дзічак“ („Самапомач“ за м-ц сьнежань 1935 г.) абяцаў я напісаць, што і як рабіць увосені наступнага году з вырасшымі за лета з гэтага насеньня дзічкамі. Раблю гэта толькі сягоньня, бо былі на гэта паважныя і ад мяне незалежныя прычыны.

У першай палове кастрычніка трэба на ўсіх дзічках абарваць лісьцё, бо само яно на здаровых дзічках, ды калі дзічкі растуць на добрай зямлі, да зімы не абсыпецца. Лісьцё абрываецца гэтак: аднэй рукой бярэцца дзічок за самы вяршок, а другой сасморгаваецца лісьцё зьверху ўніз. Сазморгаваць лісьцё трэба асьцярожна, каб разам з лісьцём не пазьдзіраць і не пазадзіраць пупышак.

Абарваўшы лісьцё, адразу прыступаем да капаньня дзічак і сартаваньня іх. Капаць трэба ўважна, бо можна папсаваць карэньне. Найлепей гэта рабіць гэтак: з канца загону, дзе растуць дзічкі, за дзесяць сантымэтраў ад першага папярэчнага раду дзічак капаем цераз увесь загон равок шырынёй і глыбінёй каля сарака сантымэтраў. Потым ставім лапату з другога процілежнага боку ад раўка, за першым дрэўкам, нагой націскаем лапату на ўсю даўжыню жалеза ў зямлю і паволі адхіляем ручку лапаты у зад ад раўка, а дзічку з зямлёй вывярачываем у роў. Так капаючы дзічкі скора, лёгка і рэдка калі здарыцца скалечыць карані. Да капаньня дзічак ды і агулам да працы ў садоўніцтве лапаты мусяць быць вострыя.

Выкапаныя дзічкі ня можна доўга дзяржаць на сухім паветры, а трэба іх у больш пэўным месцы часова прыкапаць. Кажу „ў пэўным месцы“ ў тым сэнсе, што з няпэўнага часам „добрыя людзі“... „прыхінуць.“ Прыкопка часова робіцца так: капаецца маленькі равок, а то і проста бярэцца гатовая баразна, кладуцца пучкі дзічак карэньнямі ў глыбіню і зьверху карэньне абсыпаецца зямлёй так, каб да карэньня не дахадзіў сухі вецер і паміж карэньняў не сьвяціла сонца. Няпрысыпанае зямлёй карэньне можа засохнуць, а гэта дрэўцам шкодзіць.

Скончыўшы капаньне дзічак, прыступаем да сартаваньня іх. Сартуем на чатыры сарты: першы сорт, другі, трэці і брак.

Месца да сартаваньня дзічак выбіраем зацішнае, зацененае, але віднае, найлепей дзе-небудзь пад страхой будыніны, не на ветры. Прыносім туды на раз больш дзічак і пачынаем сартаваць. Найперш адкідываем брак. У брак ідуць усе зусім крывыя дзічкі і тыя простыя, якія карэньне маюць пазадзіранае ўгару, пакручанае паміж сабой так, што без калецтва іх ня можна расплесьці, паабдзіраныя і пашчапаныя пры капаньні, з маленькімі і большымі гузкамі карэньневага рака.

Да першага, другога і трэцяга сорту адкладываем дзічкі бязумоўна простыя, здаровенькія і з добра разрослай сыстэмай карэньня. Усе тры сарты розьняцца паміж сабой перэважна таўсьцінёй у шыйцы караня і шыйкай пня.

Шыйкай караня называецца тое месца ў дрэўца, якое дзеліць дрэўца на часьці падземную і надземную, ці ясьней сказаць, граніца паміж пнём і каранём іх.

Дзічкі, якія маюць у шыйцы караня таўсьціню шэсьць і болей мілімэтраў, кладзём у першы сорт; дзічкі таўсьцінёй ад трох да шасьцёх мілімэтраў —у другі сорт і ўсе цянейшыя ад трох мілімэтраў ідуць у трэці сорт.

У салідных цяперашняга часу гандлёвых пітомніках (школках) за добры матар'ял да шчапленьня лічацца толькі дзічкі першага і другога сорту, а трэці сорт разам з бракам паліцца. Я сам у сваім уласным пітомніку паступаю таксама. З заморанага ўшчэпу і найлепшы садоўнік ня выгадуе добрага дрэўца.

Трэці сорт дзічак, хоць яны маюць просьценькія пні і здаровыя карані, аднак забірае многа часу на перасадку і не заўсяды добра расьце. Перасаджываць трэці сорт дзічак будзе толькі той, хто мае іх мала, а часу многа.

Хто ня мае добрай управы (практыкі) адгадаць грубасьць шыйкі караня на пагляд, той няхай возьме кавалак дрэва і зробіць з яго дошчачку ў дваццаць пяць сантымэтраў даўжынёй, тры сантымэтры шырынёй і адзін сантымэтр угрубкі і на адным баку тоўсьціні на тры сантымэтры ад канца дошчачкі зробіць тры нарэзы, адзін ад другога на тры сантымэтры. Першы нарэз ад канца шырынёй дванаццаць мілімэтраў, другі нарэз — шэсьць мілімэтраў і трэці нарэз —тры мілімэтры. Глыбіня нарэзаў— самы шырокі—дванаццаць мілімэтраў, сярэдні—шэсьць мілімэтраў і астатні — тры мілімэтры.

Зрабіўшы такую мерку, садзімся каля адабраных добрых дзічак, бяром па аднаму дзічку ў рукі і прыкладываем ім у вырэзы ў дошчачцы. Калі дзічок тонкі, зьмесьціўся ў выразе шырынёй у тры мілімэтры — ідзе да трэцьцяга сорту; дзічок, які зьмесьціўся ў шасьці мілімэтровым выразе, ідзе ў другі сорт і ўсе дзічкі таўсьцейшыя ў шыйцы за шэсьць мілімэтраў ідуць у першы сорт. Кожны сорт кладзём асобна, каб не памяшаць паміж сабой. Пасартаваныя дзічкі вяжам саломеным вязьмом па сто штук, прывязываем да зьвязанага пучка памалёваную на жоўта ці бела маленькую таблічку на дроціку і напісываем на гэтай таблічцы назоў гатунку дзічак, напрыклад: яблыня, ігруша ці іншае і якога выбару (сорту) дзічкі, напр.: першага, другога ці трэцяга.

Пасартованыя і павязаныя ў пучкі дзічкі ня трэба доўга дзяржаць на паветры, а чым скарэй прыкапаць іх часова такім-жа спосабам, як і першы раз прыкопвалі па выкапцы.

Як толькі скончым сартаваць дзічкі, сьпяшым прыкапаць іх на зіму. Прыкопка робіцца так. Найперш выбіраем месца, дзе не задзержываецца вада, найлепш на нязначным склоне, капаем там канаву давольчай даўжыні, шырыні да ста дваццаці сантымэтраў, глыбіні сорак пяць сантымэтраў, з роўным як стол дном. Бакі канавы мусяць быць абавязкава стацьцявыя. Пачынаем ка-

паньне канавы ад вышэйшага месца. Пачаткавы папярэчны бераг канавы павінен быць укосны.

Да верху выкапанай канавы паднасім насамперш дзічкі першага сорту і пачынаем так самую прыкопку: кладзем на ўкосны бераг канавы блізка адзін каля другога дзічкі так, каб яны чуць датыкаліся карэньнямі дна, а вяршкі дзічак па сантымэтраў дзесяць — дваццаць каб былі відаць паверх канавы. Зложаны на бок канавы рад дзічак прысыпаем зямлёй і зямлю лёгка прыціскаем лапатай і на насыпаную ўкосна зямлю ставім новы і новы рады дзічак і кожны рад паасобку прысыпаем і заціскаем зямлёй.

Паміж кожнай тысяччу дзічак насыпаем вольны прамяжутак зямлі шырынёй сантымэтраў да дваццацёх. Робіцца гэта, каб магчы заўсёды палічыць, колькі маем дзічак. Прысыпаем зямлёй дрэўцы роўна з берагамі канавы.

Па сканчэньні прыкопкі першага сорту, прыкапываем другі, па другім трэці. Па канцох кожнага сорту забіваем у зямлю моцныя калкі, на гладка выгаблеваных і памалёваных баках гэтых калкоў надпісываем звычайным чорным алаўком назоў і сорт дзічак. Хімічным алаўком ня можна падпісываць ні таблічак ні калкоў, бо хімічная надпіс ад вады расплываецца і хутка занікае.

Пры прыкапываньні дзічак трэба быць вельмі ўважным, каб не памяшаць гатункаў дзічкаў ігруш з яблынямі, ці наадварот, яблыні з ігрушамі, сьлівамі ці іншымі і сарты першы з другім ці трэцім.

Усе прыкопываемыя дзічкі трэба лічыць і адразу запісываць колькі іх, гдзе і які гатунак (сорт), і месца закопываньня іх нанесьці на самаручна зроблены плянік.

Канаваў да (закопываньня) капаем побач сябе гэтулькі, колькі іх нам трэба, адну недалёка ад другой.

Да прыкапаных дзічак прывозім яловыя ці ялаўцовыя сырыя лапкі. Найперш драбнейшымі лапкамі запіхаем усе вольныя мясцы паміж торчачых вяршкоў прыкопаных дзічак, а потым большымі лапкамі накрываем дзічкі зьверху.

Робіцца гэта дзеля дзьвёх прычын: каб мышы не загнезьдзіліся паміж каранёў і стволінаў дзічак і не паабгрызалі дзічак і каб у бязсьнежную ці маласьнежную зіму мароз не пашкодзіў дзічак.

Прыкрыўшы дзічкі лапкамі, ня маем больш з імі ніякай працы да самай вясны.

**Іван Сікора.**

*(д. б.)*

# Права бедных.

Як ведама, падаючы кагосьці ў суд у справе цывільнай трэба аплаціць судовыя кошты, высакасьць якіх залежа ад вартасьці пачатай справы. Таксама трэба наперад аплачваць судовыя кошты ў справе карнай з прыватнага абвінавачаньня, г. зн. тады, калі абвінавачвае не пракурор і не паліцыя, але сам пакрыўджаны (напр. абраза, зьнеслаўленьне, пашкоджаньне чужой маемасьці, лёгкае пабіцьцё і г. д.) — той хто падае ў суд павінен палажыць 20 зл. залогу, калі справу мае разьбіраць Суд Гарадзкі, і 50 зл. — калі ў першай інстанцыі мае разьбіраць справу Суд Акружны.

Ня кожны аднак, хто хацеў-бы судзіцца, мае чым палажыць належныя аплаты. Дзеля гэтага як у справах цывільных, так і ў працэсах карных з прыватнага абвінавачаньня асобы нямаючыя чым аплаціць судовых коштаў — могуць атрымаць г. зв. **права бедных** (*prawo ubogich*). Пры гэтым у справах карных з публічнага абвінавачаньня, г. зн. тады, калі абвінавачвае пракурор ці паліцыя, а ня сам пакрыўджаны — ніякіх аплатаў падчас працэсу аплачваць ня трэба; толькі па судовым прыгавары суд пастанаўляе, хто мае плаціць кошты, накладаючы іх на абвінавачанага, калі яго засудзілі; калі-ж абвінавачаны быў апраўданы, дык судовыя кошты аплачвае казна.

Пагутарым тут спачатку аб праве бедных у справах цывільных (урэгулявана яна ў арт. 112—125 Код. Паст. Цыв.).

Прызнаньня права бедных можа дамагацца кожны поўналетні і поўнапраўны грамадзянін (—ка), каторы(—ая) сваю беднасьць дакажа пасьведчаньнем публічнай улады (г. зн. на вёсцы — гміннай управы) аб ягоным (ейным) сямейным і маемасным стане і аб даходах. Аднак самае гэткае пасьведчаньне з гміны яшчэ ня ёсьць правам убогіх; ад

суду яшчэ залежа, ці можна прызнаць такое пасьведчаньне як довад сапраўднае беднасьці гэтай асобы, а тым самым і прызнаць ей права бедных.

Просьбу аб прызнаньне права бедных трэба падаваць у той суд, у якім справа мае разьбірацца, або ўжо разьбіраецца. Іншымі словамі — найлепш адразу ў *позве* (гэтак называецца просьба падаваная ў суд), апрача апісаньня ўсяе справы, прасіць суд каб прызнаў права бедных: да гэткай позвы трэба далучыць успомненае пасьведчаньне аб беднасьці.

У разе няпрызнаньня права бедных суд закліча *повада* (гэтак называецца той, хто падае ў суд), каб заплаціў залог у працягу 7-мёх дзён, а калі не заплаце, дык суд верне позву. Калі-ж суд права бедных прызнасьць, тады старана, якой гэта права прызнана, **не аплачвае ані коштаў судовых, ані коштаў паступаньня,** якія аплачвае за яго казна; а ў справах, якія ў першай інстанцыі разглядае Суд Акружны (напр. справы, вартасьць якіх перавышае тысячу злотаў), асоба, якой прызнана права бедных, мае права дамагацца, каб для яе быў вызначаны адвакат. Тады вызначаны судам адвакат выступае па старане асобы з правам бедных, вядзе ў ейным імені справу бяз ніякай аплаты, а за правідловасьць сваіх чыннасьцяў і за дбайлівасьць пры вядзеньні справы адказвае прад Адвакацкай Радай.

Падобна, як у справах цывільных, таксама і ў паступаньні карным у справах з прыватнага абвінавачаньня суд у пэўных выпадках можа прызнаць права бедных (пастанаўляе аб гэтым арт. 576 Код. Паст. Карн.).

Асобы, якім суд прызнаў права бедных, ня плацяць залічак і аплат — звальняюцца ад аплаты 20 зл. пры падаваньню ў Гарадзкі Суд справы карнай з прыватнага абвінавачаньня, і 50 зл. — пры падаваньні такой-жа справы ў Суд Акружны як 1—шую інстанцыю.

— Права бедных у паступаньні карным прызнае суд на падставе пасьведчаньня публічнай улады (гміны) аб маемасным стане і аб даходах асобы, што стараецца аб прызнаньне ей права бедных, калі пасьведчаньне гэта прызнасьць як выстарчаючы довад беднасьці гэтай асобы. Прызнаньне права бедных у справе карнай звальняе так-жа ад аплатаў за цывільную позву далучаную да акту абвінавачаньня (напр. у справе аб пабіцьцё—пакрыўджаны дамагаецца так-жа звароту коштаў свайго лячэньня), а так-жа ад аплатаў каўцыі (залогу) касацыйнай, калі справа падаецца ў Найвышэйшы Суд (Прыгавор Найвышэйшага Суду з дня 20.11.1931 г. № 4 К. 760/31).

*„Zjedn."*

# Гаспадарская хроніка

**Абніжка працэнтаў ад укладаў.** Паводле новага распараджэньня Міністра Скарбу, усе коопэрат. касы ашчаднасьці, якія маюць менш як 3 міл. укладаў, ад 1.I.38 г. будуць плаціць ад рахункаў бягучых 3 з паловай проц., ад укладаў *a vista* (на запатрэбаваньне)— 4 проц., ад укладаў з аднамесячным папярэджаньнем аб ўзяцьці назад — 4 з паловай проц., з трымесячным папярэджаньнем — 5 проц. Тыя-ж коопэратывы, якія маюць укладаў больш як 3 міл., будуць цяпер адпаведна плаціць 3, 3 адна чацьвертае, 3 адна чацьвертая, 4 і адна чацьвертая, і з папярэджаньнем 6 мес. — 4 з паловай проц.

**Коні для войска.** У 1937 г. на абшары Віленскай Земляробскай Палаты вайсковая рэмонтная камісія закупіла: ў Віленшчыне 313 коняў за 236 тыс. зл., і ў Наваградчыне 205 коняў на суму 162 тыс. зл. Яшчэ дадаткова камісія мае выкупіць на гэтым-жа абшары 100 коняў.

**Заводныя расы.** Віленская Земляробская Палата надала права уважаць заводнай гадоўлю чорна-белых нізінных кароў і вялікіх белых англіцкіх сьвіней К. Вагнэра ў Вял.-Салечніках.

**Аплаты за няпрызнаных бугаёў,** Рада Віл. Зeмл. Палаты на паседжаньні 22.XI 37 г. пастанавіла браць адумысло-

выя гадавыя аплаты ў суме 50 зл. ад тых бугаёў, якіх камісія ня прызнала прыгоднымі да расплоду і якія не зважаючы на гэта ўсё-ж да расплоду ўжываюцца.

**Закон аб надзоры над гадоўляй** ужо ўводзіцца ў жыцьцё. Тымчасам на першы агонь маюць быць узяты гміны: Мёры і Леонполь—Браслаўскага пав.; Плісса — Дзісьненскага пав.; Вішнева й Жодзішкі — Вялейскага пав.; места Вільня; Дарэва — Баранавіцкага пав., Гавезна, Клецак, Грыцавічы, Сіняўка і Заастровічы — Нясьвіскага пав.; Карэлічы, Пачапава, Райца, Кушалева і места Наваградак—Наваградзкага пав.

**Колькі мы зьелі солі?** Паводле падлічэньняў Гал. Стат. Бюра ва ўсей Польшчы за першыя 10 месяцаў 1937 г. было спажыта 339 тыс. тоннаў (тонна мае 1.000 клг.) солі, у гэтым на т. зв. усходніх ваяводзтвах (Віленшчына, Наваградчына, Палесьсе, Валынь) 44 тыс. тоннаў.

**Італія бяз тлушчу.** У Італіі выйшаў загад, каб усякі зьвярыны тлушч (сала) быў па забіцьці жывёлы заразжа аддаваны ўрадавым вэтэрынаром, якія далей аддаюць яго ў фабрыкі ваеннага аружжа на прыгатаваньне гліцэрыны і г. п.

**Прыгатаўляецца закон** аб непадзельнасьці гаспадарак у Польшчы. У сваім часе быў ужо зложаны ў Сойме праект, да якога анагдай (15.XII 37) дадаў папраўкі Саюз Земл. Палатаў і Арганізацый.

**Аб несаюзных коопэратывах** вяліся нарады Дзярж. Коопэр. Рады на паседжаньні 17.XII.37 г. Сьцьверджана было, што ў Польшчы ёсьць яшчэ 5.969 несаюзных („дзікіх") коопэратываў. Рада ўпаважніла старшыню д-ра Цалкосінскага робіць на гэтыя коопэратывы націск, каб яны ўліліся ў адпаведныя саюзы. Пастаноўлена пры гэтым было, што ад 1 красавіка 1938 часапіс „Spółnota Pracy" перастае быць месцам для абвестак несаюзных коопэратываў. Новага часапісу Рада аднак яшчэ ня вызначыла.

# Цэны ў Вільні

**Збожжа** *13.I.37 за 100 клг.*

| | |
|---|---|
| Жыта | 21.50—22.75 |
| Пшаніца | 27.00—28.50 |
| Ячмень | 27.00—28.50 |
| Авёс | 19.50—21.75 |
| Грачыха | 17.75—18.25 |
| Мука пшанічная | 23.00 - 44.00 |
| Мука жытняя | 24.00—35.00 |
| Мука жытняя разовая | 24.00—24.00 |
| Мука бульбяная | 31.50—32.50 |
| Вотрубы пшанічныя | 15.00—15.75 |
| Вотрубы жытнія | 13.75—14.50 |
| Віка | 19.50 - 20.50 |
| Лубін сіні | 14.00—14.50 |
| Семя лянное b. 90% | 44.50 - 45.00 |
| Лён трапаны, Валож.(1.000 к.) | 1530—1570 |
| Лён трапаны, Гародзей | 1900—1940 |
| Лён трапаны Трабы | 1540—1570 |
| Лён трапаны, Мёры | 1450—1490 |
| Лён часаны Гародзей | 2080—2120 |
| Кудзеля Гародзейская | 1580—1620 |

**Малочнае,** *12.I.38 за 1 кілё.*

| | |
|---|---|
| Масла найлепшае, гурт | —3.20 |
| „ „ дэталь | —3.50 |
| Масла сталовае гурт | —2.70 |
| „ „ дэталь | —3.00 |
| „ соленае, гурт | —3.10 |
| „ „ дэталь | —3 40 |
| Сыры, за хлг. | |
| Эмэнталь чырвоны гурт. | —2.40 |
| „ „ „ дэталь | —2.80 |
| „ „ жоўты, гурт | —2.20 |
| „ „ „ дэталь | —2.50 |
| літоўскі гурт | —2.00 |
| „ „ дэталь | —2.30 |
| Яйкі ў гурце за капу | 9.00—9.90 |
| „ ў дэталю за штуку | 16—18 гр. |

# У справе недаручаньня „Самапомачы.“

Апошнім часам узноў заплавілі нашу рэдакцыю жальбы падпішчыкаў на тое, што яны хоць і аплацілі падпіску на часапіс, то аднак не акуратна, а часам і зусім яго не атрымліваюць. Рэдакцыі іншых беларускіх газэт наракаюць на гэта таксама, а дагэтуляшнія скаргі ў адпаведных установах тымчасам памаглі ня шмат. Ня ведаем, як гэта справа прадстаўляецца ў рэдакцыях напр. польскіх, але хто ведае, ці ня праўду кажуць тыя, што гэту справу трэба было-б назваць „хваробай беларускай.“ Мы гэтага ня цьвердзім. Кажам аднак, што тут нехта нязлоўлены і непакараны шкодзіць і яго трэба знайсьці. Ляжыць гэта ў супольным інтарэсе кожнага часапісу, а тым-больш самых чытачоў. Таму працаваць тут трэба супольна. Як?

1. Кожны падпішчык дамагаецца выпісанага часапісу на сваей пошце.

2. Калі часапісу ў звычайным часе няма, дык трэба аб гэтым на тэй-жа пошце складаць рэклямацыі ці йнакш кажучы — паўторныя дамаганьні. Сэнс і выгада такіх рэклямацыяў у тым, што пакрыўджаны пры ейнай помачы бясплатна паведамляе рэдакцыю аб сваей шкодзе, а рэдакцыя мае права тады выслаць бясплатна жаданы нумар газэты.

3. Рэклямацыя гэта звычайны кусок чыстай белай паперы, формату звычайнай паштоўкі. На адным баку такой паперы ўверсе пішыцца „*Reklamacja gazetowa*,“ і адрэс часапісу, напр. Red. „Samapomacz“

Wilno
Zawalna 1.

На другім баку пішыцца: толькі гэта:

*Не атрымаў №№.....* (тут напісаць якіх нумароў ці за які месяц) *„Самапомачы“* і подпіс.

Больш нічога пісаць ня можна. Гэткую рэклямацыю кожная пошта мусіць прыняць і пераслаць у паказаную рэдакцыю, якая спраўдзіўшы, ці такі нумар быў ужо высланы, і ці падпішчык мае аплачаную падпіску, неадкладна жаданы нумар высылае.

4. Рэклямацыю такую пошта прыняць **мусіць.** А калі-б прыймаць не хацела, дык тады трэба пайсьці на пошту з рэклямацыяй не самому толькі, а з двума сьведкамі і ў іхняй прысутнасьці зажадаць прыняцьця рэклямацыі. Калі-ж бы так здарылася, што і гэта не памагло, тады трэба ўпісным (polecony) пісьмом аб усім паведаміць адпаведную рэдакцыю і падаць сьведкаў, тады толькі рэдакцыя можа пачаць адпаведнія крокі.

Але надужыцьці здараюцца найчасьцей не на пошце, а паміж поштай і падпішчыкам. У такім выпадку ёсьць тры рады:

1. з пошты браць газэту толькі асабіста, або праз чалавека зусім пэўнага,
2. сачыць за людзьмі, якія здыймаюць з пошты газэту і
3. калі ўжо іншага выхаду няма, дык наймаць на пошце скрынку.

Гэта найчасьцейшыя выпадкі надужыцьцяў, якія аднак здараюцца наўперад там, дзе самі падпішчыкі ня вельмі стаяць за сваё дабро. А гэта — проста сорам.

Дык усе пільна сачэце за сваім дабром, а тады і злыдні будуць баяцца яго чапаць!

„Самапомач“ выходзіць раз на месяц

ПАДПІСКА на „Самапомач“: на год — 3 зл. Асобны нумар 30 грашоў. Пры выпісваньні на адзін адрэс прынамся 5-цёх экзэмпляроў — па 2 зл. за нумар на цэлы год (за 5 штук 10 зл., а за 10 шт. — 15 зл.).Цэны абвестак паводле ўмовы. Грошы перасылаць „разрахунковым пераказам“ на картотэку № 40. Усякія пісьмы адрэсаваць у рэдакцыю: Вільня, Завальная 1. Рэдакцыя адчынена ад гадз. 13 да 15.

Рэдактар Інж. А. КЛІМОВІЧ. Выдавец: „БЕЛПРЭС“

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны ў Вільні: Завальная 1.